

**ЦІ АДБУДЗЕЦЦА ПАЛІТЫЧНЫ ДЫЯЛОГ?** Стар. 2.

**СКАРБЫ ГІСТАРЫЧНАГА АРХІВА** Стар. 2.

**«ПРЫКМЕТЫ АДЫХОДЗЯЧАГА ЧАСУ» МАСТАКА Уладзіміра ТОЎСЦІКА** Стар. 3.



**Аляксей САЛАМОНАЎ: «САМАСТОЙНАЯ БЕЛАРУСЬ СВАІМ ГЕАГРАФІЧНЫМ ЦЭНТРАМ НАЗАЎДЫ БОГАМ ПРЫВЯЗАНА ДА ЦЭНТРА ЕЎРОПЫ»** Стар. 5.

**РЭПАРТАЖ З МАЙСТЭРНІ СКУЛЬПТАРА Льва ГУМІЛЕЎСКАГА** Стар. 4—5.



**Леў МІРАЧЫЦКІ. ГІСТАРЫЧНЫ НАРЫС ПРА АГУЛЬНАЕ МІНУЛАЕ БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ** Стар. 6.

**ЛІТАРАТАРЫ 30-х. АПАВЯДАННЕ Сяргея РУСАКОВІЧА «КРУМКАЧ»** Стар. 7—8.


**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА** **РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

24 лістапада 1999 года
Цана 40 000 рублёў

№ 47 (2657)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.


**НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ**

## «ДРЭВА ЖЫЦЦЯ» Аляксандра УЛАСАВА



Завяршаецца дваццатае стагоддзе. Самая пара азірнуцца і асэнсаваць, як пражыта гэтае стагоддзе, чые імёны ўпісаць залатымі літарамі ў аналы беларускай гісторыі, культуры. Шмат якія з іх ужо даўно акрэслены, вызначаны. Сярод іх — Янка Купала, Якуб Колас, Алаіза Пашкевіч-Цётка, Зміцер Жылуновіч, Максім Багдановіч, Алесь Бурбіс, Аляксандр Чарвякоў, Уладзіслаў Галубок, Максім Гарэцкі, Браніслаў Тарашкевіч...

Усіх іх паклікала да творчага, грамадскага і палітычнага жыцця першая легальная беларуская газета "Наша Ніва", першым рэдактарам якой стаўся Аляксандр Уласаў.

І сапраўды, калі б не было "Нашай Нівы", ці знайшліся б Янка Купала, Якуб Колас, Ядвігін Ш., Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі?.. Ці падалі б яны свой голас? Ці пачулі б яны сябе беларускімі песнярамі? Магло б так стацца, што Янка Купала пісаў бы папольску. Багдановіч — па-расійску. Ну і гэтак далей.

Але вось на хвалі рэвалюцыі 1905 года ў 1906-м з'явілася "Наша Ніва". І ўсё завіравала. З розных куточкаў Беларусі пасыпаліся допісы, вершы, абразкі, апавяданні. Скуль толькі што ўзялося!.. Без граматыкі, без беларускай школы ўсе зарупіліся пісаць пабеларуску, жывой моваю. Гэта быў незвычайны рух! Яго хіба можна параўнаць з веснавой паводкай, з прарывам вады праз забетанаваную плаціну. А яно, бадай што, так і было!



*Аляксандр УЛАСАЎ (у цэнтры) і яго жонка з роднымі і сябрамі. 1926 год.*

І ў гэты рух прывяла Беларусь найперш "Наша Ніва" і яе першы рэдактар Аляксандр Уласаў. Ён усё сваё жыццё бараніў Беларусь і беларусаў, тлумачыў, што *"ўсе, хто прывык шанаваць кожную нацыю і кожнага чалавека, ведаюць, што ў роднай мове сваёй беларус усё лепш разумее, што тая мова — гэта яго душа, сэрца, усё, што ёсць самае блізкае і дарагое чалавеку. І беларусам, беручы культуру ад рускіх і ад палякаў, няма ніякай патрэбы забываць, што яны беларусы, адракацца ад сваёй нацыі і перакідацца к чужой".*

*"Наша Ніва", 25 красавіка 1908 года.*

Ужо за адно тое, што Уласаў разам з сваімі паплечнікамі Антонам і Іванам Луцкевічамі прывёў у рух духоўнае жыццё Беларусі, ягонае імя павінна быць запісана ў адным шэрагу з імёнамі выдатных адраджэнцаў XX стагоддзя. І нават на чале гэтага шэрагу. А менавіта так: Аляксандр Уласаў, Іван і Антон Луцкевічы. І далей усе астатнія: Янка Купала, Якуб Колас... Іван і Антон Луцкевічы — нашы беларускія карані XX стагоддзя. Усе астатнія на нашым беларускім дрэве XX стагоддзя — гэта галінкі, лісточкі, верхавінкі, макаўкі, парасткі. І яшчэ адно першынство за Уласавым. Ён першы пачаў Мінск губернскі пераўтвараць у Мінск беларускі, у Мінск (Менск) сталічны. І вось такая самабытная постаць да гэтай пары была зацемнена, ніяк не ўшанавана, не ўзвялічана, як яна гэтага вартая.

**(Заканчэнне на 4—5-й стар.).**

**СУКВЕЦЦЕ**



## «СОНЕЧНЫ ПТАХ»

Гэтай восенню трэці раз сабраліся ў сценах мінскага Палаца дзяцей і моладзі дзіцячыя творчыя калектывы на фестываль нацыянальных культур "Сонечны птах". На гарадскі фестываль, акрамя дзіцячых калектываў Мінска, прыехалі юныя майстры і артысты з Горак і Пастаў. У фестывалі прынялі ўдзел ансамбль польскай песні "Вясёлка", фальклорны калектыў "Аястан", дуэт "Арзо", ансамбль "Барвінак" і многія іншыя калектывы.

У праграме "Сонечнага птаха" — кірмаш-продаж вырабаў народных майстроў, конкурс гульневых праграм, "горад майстроў" і конкурс на лепшую дзіцячую работу, фестываль дзіцяча-маладзёжных фальклорных калектываў, майстар-класы і мастацкая выстава ў галерэі "Палац".

НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё фестывалю нацыянальных культур "Сонечны птах"; армянскі фальклорны калектыў "Аястан".

**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**



**СПОРТ: НАПЯРЭДАДНІ АЛІМПІЯДЫ**



БелТА.

**У Нацыянальным алімпійскім камітэце Беларусі прайшла прэс-канферэнцыя членаў Нацыянальнай зборнай каманды па стралковаму спорту. Яны ўжо заваявалі трынаццаць ліцэнзій, што дае права на ўдзел у Алімпіядзе ў Сіднеі.**

**АКАДЭМІЧНАЯ ГРЭБЛЯ.** На чэмпіянаце свету, які праходзіў у канадскім Сен-Катарыне, Кацярына Карстэн прынесла нашай камандзе золата ў адзіночным разрадзе. Гэтая перамога стала для яе пропускам у алімпійскі Сідней. На сённяшні дзень маецца яшчэ адна ліцэнзія ў класе мужчынскай "чацвёркі" без рулявога. У склад экіпажа ўваходзяць: Аляксандр Самахвалаў, Андрэй Татарчук, Дзмітрый Міроничык і Дзмітрый Плячысцік. Астатнім веслярам да выхаду на Алімпіяду яшчэ прыйдзецца пазмагацца на еўрапейскай кваліфікацыйнай рэгаце ў Швейцарыі.

**СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА.** 34-ты чэмпіянат свету па спартыўнай гімнастыцы, што адбыўся ў Цянь-Цзіне (Кітай) прынёс нашай мужчынскай камандзе бронзавыя медалі. На жаль, лідэр каманды Іван Іванкоў з-за траўмы не змог прыняць удзел у абсалютным першынстве. Мінулы чэмпіянат з'явіўся генеральнай рэпетыцыяй перад турнірам у Сіднеі.

**ДЗЮДО.** Бронзавай узнагародай адзначаны апошні паядынак беларускага спартсмена-дзюдаіста Націка Багірава на чэмпіянаце свету ў Бірмінгеме. Ён прэтэндэнт на алімпійскі медаль.

**НАСТОЛЬНЫ ТЭНІС.** Яшчэ адна з нашых алімпійскіх надзей — майстар маленькай ракеткі Уладзімір Самсонаў нядаўна перамог у прэстыжным турніры — Кубку свету.

Узнагародай беларусу стаў прызавы чэк на суму 40 тысяч долараў і ўмацаванне пазіцый на першым радку рэйтынга.

**Падрыхтавала Каця МАЗАКОВА.**

ПАЛІТЫЧНЫ АГЛЯД

# УЛАДЫ І АПАЗІЦЫЯ РЫХТУЮЦЦА ДА ДЫЯЛОГА

● Юрый ДОМНІЧ.

Ужо некалькі месяцаў дыялог паміж уладамі і апазіцыяй, які рыхтуецца пры пасрэдніцтве Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску, з'яўляецца адной з галоўных тэм палітычнага жыцця краіны. Менавіта па гэтай прычыне лета не стала ў краіне сезонам зацішша: палітычная эліта ўвесь час абмяркоўвала ўмовы перагавораў паміж канфліктуючымі бакамі. Восенню абрысы будучага дыялога пачалі вымалёўвацца ўсё дакладней.

Гэтаму, несумненна, паспрыяла активізацыя дзейнасці КНГ АБСЕ і непасрэдна яе кіраўніка пасла Ханса-Георга Віка. Пры пасрэдніцкай місіі КНГ АБСЕ прадстаўнікі ўладаў і апазіцыі ўжо правялі некалькі сустрэч, у выніку якіх пачаліся кансультацыі адносна перадумоў пачатку дыялога.

Асноўнай мэтай дыялога павінна стаць выпрацоўка выбарчага закона, які б адпавядаў міжнародным нормам і мог забяспечыць свабодныя і справядлівыя выбары ў заканадаўчы орган, якія запланаваны на 2000 год. Апазіцыя папярэдне згадзілася не кранаць прынцыповае пытанне канстытуцыйных змен, якое стала яблыкам разладу паміж рознымі палітычнымі сіламі ў краіне пасля рэферэндуму 1996 года і якое не дазваляла да гэтага часу сесці за стол перамоў.

Але каб прыступіць да абмеркавання ўмоў фарміравання парламента, бакі дамовіліся вырашыць некалькі папярэдніх пытанняў. У прыватнасці, апазіцыя настойвае на прадастаўленні свабоднага доступу да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, у першую чаргу, да радыё і тэлебачання. З гэтай мэтай улады і апазіцыя стварылі экспертныя групы, якія, дарэчы, ужо правялі некалькі сустрэч. Не выключана, што неўзабаве з'явіцца і дакумент, які замацуе дамоўленасці і прымусіць бакі прытрымлівацца іх у далейшым.

Яшчэ адной перадумовай пачатку дыялога з'яўляецца патрабаванне апазіцыі вызваліць палітзняволеных. Улады, у сваю чаргу, наадрэз адмаўляюцца прызнаваць, што ў Беларусі ёсць такая катэгорыя асоб: па словах прадстаўнікоў Адміністрацыі Прэзідэнта і ўрада, усе, каго апазіцыя адносіць да палітзняволеных, асуджаныя па крымінальных справах. Але КНГ АБСЕ таксама выказвае думку, што, напрыклад, вызваленне былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра паспрыяла б перамовам.

Па сцэнарыю, прапанаванаму АБСЕ і падтрыманаму бакамі, дыялог павінен адбыцца паміж шасцю ўпаўнаважанымі прадстаўнікамі ўладаў, шасцю прадстаўнікамі апазіцыйных палітычных партый і шасцю прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый. Місію пасрэдніка ўзяла на сябе КНГ АБСЕ, паўнамоцтвы якога на арганізацыю дыялога замацавалі дэлегаты 53 дзяржаў на сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў Санкт-Пецярбургу.

Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка адпаведным указам вызначыў кола асоб, якіх упаўнаважыў весці перамовы. Кіраўніком групы прызначаны памочнік Прэзідэнта Міхаіл Сазонаў. Групу апазіцыі таксама ўдалося сфарміраваць. У яе склад увайшлі прадстаўнікі васьмі палітычных партый. Такім чынам, аб'яднаную апазіцыю падчас дыялога прадстаўляюць лідэры або іх намеснікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Партыі Беларускага народнага фронту, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада", Партыі камуністаў Беларускай, Партыі жанчын "Надзея", Беларускай партыі працы, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады і Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС




Ужо год існуе ў Ленінскім раёне Мінска Цэнтр прафарыентацыі і сацыяльна-псіхалагічнай падтрымкі моладзі. Яго спецыялісты дапамагаюць маладым людзям, якія звярнуліся сюды па кансультацыю, у выбары ці змене прафесіі, у пошуку месца работы.



Некалькі гадоў дзейнічае пры 2-й клінічнай бальніцы Мінска гаспадарча-разліковае медыка-сацыяльнае аддзяленне. Пацыенты яго — нямоглыя людзі сталага ўзросту, каму ўжо не абысціся без пабочнай дапамогі. А тут яны акружаны ўвагай спецыялістаў-медыкаў, дагледжаны, накормлены. Клапатлівы да сваіх падапечных і "медбрат" Андрэй МАТАВІЛЕЦ. Удзячная яму за гэта 98-гадовая бабуля Ганна.

**БелТА.**

АКТУАЛЬНАЯ ГУТАРКА

# *АРХІЎ — МОСТ ПАМІЖ МІНУЛЫМ І БУДУЧЫНЯЙ*

**На мяжы часоў асабліва вострa паўстаюць пытанні: хто мы, адкуль, што было ў нашым мінулым і чакае ў будучыні? У сувязі з гэтым хочацца расказаць пра ўстанову, галоўная задача якой — менавіта захаванне дакументальнай спадчыны краіны — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Пра тыя багацці, што тут захоўваюцца, пра дзейнасць архіва расказвае яго дырэктар Ала ГАЛУБОВІЧ.**

— Сёння ў архіве 3 091 фонд, звыш 1 мільёна спраў, многія з якіх — унікальныя помнікі нацыянальнай культуры XV—XX стагоддзяў (да 1917 года ўключна): дакументы аб палітычным, сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці беларускага народа. Усе матэрыялы ўяўляюць вялікую цікавасць для даследчыкаў.

— *Хто атрымлівае магчымасць карыстацца гэтымі скарбамі?*

— Кола людзей, што працуюць у нашых бібліятэках, даволі шырокае — школьнікі старшых класаў, студэнты, пісьменнікі, археолагі, работнікі кіно, мастакі, філолагі, краязнаўцы — адным словам, усе, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

— *У мінулым годзе Нацыянальны архіў адзначыў сваё 60-годдзе...*

— Так, дата заснавання архіва — 5 ліпеня 1938 года. Аднак, калі весці адлік — як у архівах заходніх краін — ад першых дакументаў, то нам ужо больш за 600 гадоў. Самы старадаўні дакумент, што ў нас захоўваецца, датаваны 20 чэрвеня 1391 года. Гэта грамата на зямлю князёў Кур'ятовічаў: яны жалавалі пану Грынько за верную службу горад Сакалец. У архіве захоўваюцца таксама арыгінальныя пергаментныя граматы XV—XVII стагоддзяў, напісаныя на старабеларускай, старапольскай і лацінскай мовах. На іх натаў захаваліся пячаці і пазалота літар. Сярод матэрыялаў гэтага перыяду найбольш цікавыя — актавая кніга Драгічынскага земскага суда (1416—1444), прывілеі на магдэбургскае права гарадам Нясвіжу (1586), Мазыру (1680)...

Сапраўдным скарбам мы лічым матэрыялы, звязаныя з імёнамі вялікіх пісьменнікаў Максіма Багдановіча, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Міхася Лынькова, Івана Тургенева, Вісарыёна Бялінскага (напрыклад, праца Бялінскага "Аб выкладанні рускай мовы ў нярускіх школах", якая доўгі час лічылася згубленай); кампазітараў — Глінкі, Манюшкі, Агінскага, у прыватнасці, копія пісьма Агінскага дазорцы Маладзечанскай павятовай школы, дзе ён паведамляў, што дарыць школе свой палац, кнігі, ноты і музычныя інструменты для цэлага аркестра. Асобае месца ў архіве займаюць унікальныя фамільныя фонды князёў Радзівілаў, Любамірскіх Друцкіх-Любецкіх і іншых.

— *У якіх умовах адбываецца захаванне гэтых рарытэтаў?*

— Захаваць дакументы і арганізаваць іх выкарыстанне — галоўная задача архіва. Для забеспячэння цэласнасці фондаў праводзіцца адпаведны комплекс работ: дэзінфекцыя, стварэнне аптымальнага тэмпературна-вільготнаснага рэжыму, рэстаўрацыя пераплётаў, стварэнне мікрафотакопій асабліва каштоўных дакументаў. Кнігі знаходзяцца ў спецыяльных сховішчах на металічных стэлажах — гэтага патрабуюць і нестандартныя памеры кніг: іх сярэдні аб'ём больш за 250 лістоў, а самыя вялікія налічваюць нават да 6 000 лістоў.

— *Якімі дакументамі папаўняецца Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі?*

— У асноўным метрычнымі кнігамі, што паступаюць да нас з архіваў ЗАГСаў. Аднак шмат дакументаў загінула падчас рэвалюцый і войнаў, таму асноўная маса метрычных кніг заканчваецца 1900 годам. Часам да нас трапляюць кнігі з цэркваў і касцёлаў — вельмі каштоўныя экземпляры. Нам хацелася б, каб іх было як мага больш. Асаблівая надзея ў нас на праграму "Вяртанне", скіраваную на вяртанне беларускай дакументальнай спадчыны з-за мяжы.

— *Апошнім часам узрасла цікавасць людзей да мінулага сваёй сям'і, уласных каранёў. Чым можа дапамагчы Нацыянальны архіў тым, хто цікавіцца генеалогіяй?*

— Сапраўды, мы атрымліваем усё больш зваротаў наконт генеалагічных даных і праводзім пошук адпаведных дакументаў. Гэта вельмі карпатлівая работа: звесткі знаходзяцца ў фондах рэлігійных устаноў, дваранскіх дэпутацкіх сходаў, казённых палат, мяшчанскіх упраў, статыстычных камітэтаў, у фамільных фондах. І калі матэрыял па прывілеяваных саслоўях знайсці лягчэй, то звесткі адносна астатніх даводзіцца збіраць амаль па крупінках. Зараз архіў распрацоўвае спецыяльную праграму "Наш радавод", якая прадугледжвае стварэнне агульнанацыянальнага банка даных, дзе кожны жадаючы атрымае патрэбную яму інфармацыю. Увогуле ж катаклізмы XX стагоддзя прывялі да разрыву не толькі роднасных, але і сямейных сувязей, таму да нас прыходзяць запыты грамадзян блізкага і далёкага замежжа на пошук родных у Беларусі. Мы складаем архіўную даведку, выяўляем дакументы па гісторыі адпаведнай сям'і. Але нашы даныя тычацца толькі дарэвалюцыйнага часу, бо, зноў нагадаю, матэрыялы архіва датуюцца XV — пачаткам XX стагоддзя.

У рэчышчы нашай размовы мушу зазначыць: дзе б мы ні знаходзіліся, важна помніць пра свае карані, свае вытокі, бо, як вядома, без мінулага няма і будучыні.

**Гутарыла Нэлі ПРЫВАЛАВА.**

ВЫСТАВЫ



## «АЎТАБІЗНЕС-99»

**У сталічным выставачным цэнтры "Мінск-Экспа" трэці раз адбылася міжнародная спецыялізаваная выстава "Аўтабізнес-99". На ёй шырока прадстаўлены ўвесь спектр аўтамабіляў. Асаблівую цікавасць у наведвальнікаў выставы выклікаў легкавы аўтамабіль "Волга 3111".**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

ЛАД ЖЫЦЦЯ

## ВЫЙСЦЕ З ПАЛОНУ ІЛЮЗІЙ

Міжнародная канферэнцыя "Светапогляд новага тысячагоддзя — цвярозасць, культура, разумная стваральнасць" адбылася ў Мінску ў пачатку лістапада. На ёй сабраліся вучоныя, грамадскія дзеячы, медыкі, эканамісты, юрысты, настаўнікі з Украіны, Беларусі, расійскіх гарадоў — Масквы, Санкт-Пецярбурга, Новасібірска, Цюмені і іншых, заклапочаныя той бядой, якая закранула нашы краіны.

Статыстыка няўмольна сведчыць: за пасляваенны час ужыванне хлеба павялічылася на 8 працэнтаў, а алкаголю — на 600. Але чым болей бюджэт папаўняецца за кошт продажу алкаголю, тым хутчэй і катастрафічней падае ўзровень паступленняў на рахунак іншых даходаў. Краіны бядняюць, рэзка зніжаецца інтэлектуальны ўзровень, бо алкаголь нясе пакавецтву бяды больш, чым чума, голад і вайна, разам узятыя.

На канферэнцыі выступаючыя не толькі канстатавалі вынікі злоўжывання алкаголем, тытунём, наркотыкамі, але выказалі слушныя парады, тэорыі, як зрабіць наша жыццё цвярозым, духоўным.

Асаблівую цікавасць выклікаў даклад акадэміка Расійскай акадэміі навук, знакамітага хірурга, імя якога занесена ў Кнігу рэкордаў Гінеса, як самага доўгапрактыкуючага хірурга ў свеце, аўтара звыш 650 навуковых манаграфій і 16 публіцыстычных кніг, перакладзеных на 16 моў, Фёдара Углова. Акадэмік ужо многа гадоў узначальвае рух за цвярозы лад жыцця. Ён з болем гаварыў, што яму, які прастаяў усе 900 дзён блакады Ленінграда за хірургічным сталом, вельмі цяжка бачыць, як па прычыне п'янства становяцца інвалідамі, а то і гінуць маладыя людзі, што смяротнасць апярэджвае нараджальнасць.

Канферэнцыя год ад года збірае ўсё больш прыхільнікаў цвярозасці.

**Таццяна КУВАРЫНА.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

# ЗБОРКА АЎТАМАБІЛЯЎ *«ВОЛГА»* Ў БЕЛАРУСІ

ЗАТ БелГАЗаўтасервіс, генеральны прадстаўнік ААТ "ГАЗ" у рэспубліцы, плануе ў гэтым годзе пачаць зборку ў Беларусі легкавых аўтамабіляў ГАЗ-3110 "Волга". Зборка будзе праводзіцца на вытворчых плошчах у прамысловай зоне Мінска — Калядзічы, першапачаткова з поўных машынакамплектаў, пастаўляемых з Расіі. У далейшым БелГАЗаўтасервіс мае намер часткова выкарыстоўваць беларускія камплектуючыя. Першы ўзор плануецца сабраць у лістападзе-снежні бягучага года. Спецыялісты прадпрыемства адзначылі, што аб'ём зборкі будзе вызначацца ў асноўным рынкавым попытам на гэтыя аўтамабілі. Першапачатковa цэны на аўтамабілі "Волга" беларускай зборкі не будуць адрозніваццa ад цэн на такія аўтамабілі, што збіраюцца ў Расіі на Горкаўскім аўтазаводзе. Цяпер цана ГАЗ 3110 на беларускім рынку складае да 2,3 мільярда беларускіх рублёў.

Сумеснае беларуска-расійскае прадпрыемства па зборцы аўтамабіляў маркі "ГАЗ" адкрыта ў Беларусі ў сакавіку гэтага года. З беларускага боку заснавальнікам выступае БелГАЗаўтасервіс, з расійскага — ААТ "ГАЗ". Аўтазборачная вытворчасць выпускае з машынакамплектаў розныя мадыфікацыі аўтамабіляў ГАЗ-3302 "Газель" грузападымальнасцю да 1,5 тоны і грузавікі ГАЗ-3307 грузападымальнасцю 4,5 тоны. Мяркуецца, што за першы год работы прадпрыемства збярэ 200—500 аўтамабіляў. У далейшым выпуск аўтамабіляў "ГАЗ" плануецца павялічыць да 5 тысяч адзінак у год.



ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# Уладзімір ДРАБО: «2000-ны ГОД БУДЗЕМ СУСТРАКАЦЬ НА ПАЎДНЁВЫМ ПОЛЮСЕ»

**"Удзельнік пагаджаецца рабіць толькі фатаграфіі і пакідаць толькі сляды" — гэта радкі з кантракта, што заключаецца з кожным парашутыстам, які вырашыў прыняць удзел у міжнароднай экспедыцыі на Паўднёвы полюс. Як ужо паведамлялася ў нашай газеце ("ГР" № 43), экспедыцыя стартуе ў Антарктыду ў снежні гэтага года і стане беспрэцэдэнтным па маштабу і спосабах пакарэннем паўднёвай макушкі планеты. Асноўнымі арганізатарамі гэтага праекта з'яўляюцца прадстаўнікі трох дзяржаў: Расіі, Беларусі і ЗША, тады як у самой экспедыцыі прымуць удзел каля 70 чалавек з больш чым 30 краін свету. Падрабязней пра гэтае антарктычнае пакарэнне карэспандэнт "Советской Белоруссии" Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ папрасіў расказаць беларускага ініцыятара праекта, прэзідэнта фонду падтрымкі экстрэмальных экспедыцый "Полюс" Уладзіміра ДРАБО.**

— У сярэдзіне снежня самалёты Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Расіі вылецяць у Чылі, дзе пасля дазапраўкі ў гарадку Пунта-Арэнас адправяцца на самы паўднёвы мацярык, на лядовую базу "Пэтрыот-Хілз". Яна і стане галоўным лагерам палярнікаў. Самымі першымі да полюса пройдуць беларусы і расіяне на пнеўматычных усюдыходах, якія сканструяваны і сабраны ў нашай краіне. Іх мэта — дабрацца да Паўднёвага полюса да 31 снежня і на Новы, 2000 год, устанавіць там дзяржаўныя флагі Беларусі і Расіі. Дарэчы, расіяне будуць устанаўліваць флаг, які пабываў на арбітальнай станцыі "Мір".

Разгарнуўшы на полюсе лагер, славяне будуць на зямлі чакаць выкідку з паветра дэсанта. Спроба скокнуць з парашутам на паўднёвы край планеты ўжо аднойчы рабілася амерыканцамі. Аднак тады з-за адсутнасці ведаў аб незвычайнай разрэджанасці паветра і спецыяльных навыкаў трое з шасці парашутыстаў разбіліся. Цяпер жа ў экспедыцыю набіраюцца выключна парашутысты-прафесіяналы з Расіі, Кітая, ЗША, Францыі, Аўстраліі, Іспаніі, Новай Зеландыі, Японіі і іншых краін. Кожны з іх плаціць за скачок у Новы год на Паўднёвы полюс па 20 тысяч долараў. Гэтыя ўзносы і з'яўляюцца асноўнай крыніцай фінансавання экспедыцыі. Крыўдна, але сярод парашутыстаў няма ніводнага беларуса. Відаць, дарагавата нашым прафесіяналам здзейсняць такія скачкі, хаця арганізатары экспедыцыі з радасцю гатовы разглядзець іх заяўкі на льготных умовах.

Пасля скачкоў у справу зноў уступяць беларусы і расіяне, якія на сваіх пнеўматыках даставяць спартсменаў, што спусціліся з нябёсаў на зямлю, на базу "Пэтрыот-Хілз".

**— Ці будзе яшчэ хто-небудзь разам з вамі пакараць Паўднёвы полюс!**

— Экспедыцыя унікальная і тым, што яна шматпрафільная. Акрамя парашутыстаў, на полюс дэсантуюцца і спартсмены-баланісты. Яны ўпершыню ў гісторыі паднімуць свае паветраныя шары і палятаюць над зямной воссю.

У экспедыцыі плануецца і ўдзел альпіністаў, якія замест полюса будуць пакараць самую высокую гару ў Антарктыдзе — масіў Вінсан, размешчаны на вышыні 5 тысяч 140 метраў. Балазе гэтая гара знаходзіцца побач з базай, і ўзняцца на яе ў альпіністаў будзе час.

**— Ці існуе падтрымка вашай экспедыцыі з боку дзяржаў?**

— Так, напрыклад, цяпер малазійская зборная рыхтуецца да экспедыцыі пры актыўнай падтрымцы ўрада гэтай астраўной краіны; французскія парашутысты вядуць экспедыцыйныя зборы непасрэдна пад патранатам прэзідэнта Жака Шырака; падпісана нядаўна і параджэнне ўрада Расійскай Федэрацыі аб дзяржаўнай падтрымцы нашага праекта. Цяпер магчымасць аказання дзяржаўнага садзейнічання экспедыцыі разглядаецца ў Адміністрацыі Прэзідэнта і Савеце Міністраў Беларусі.

Аднак беларускія дзяржаўныя структуры дапамагаюць нам ужо даўно. На Мінскім падшыпнікавым заводзе цяпер фактычна сабрана 10 пнеўматычных усюдыходаў. Спецыялісты бабруйскага шыннага камбіната "Белшына" для нашых пнеўматыкаў распрацавалі і стварылі спецыяльныя, разлічаныя на вельмі нізкі ціск колы. Аналагічных пнеўматычных колаў не выраблялі нідзе ў свеце. Як паказалі палявыя выпрабаванні, вырабы бабруйчан значна больш якасныя і надзейныя за авіяцыйныя колы, якія выкарыстоўваліся раней.

У стварэнні пнеўматыкаў вялікую дапамогу аказалі і іншыя прадпрыемствы. Напрыклад, на Мінскім маторным заводзе вырабілі спецыяльныя рэдуктары, а на заводзе шасцерань — шасцерні для гэтых рэдуктараў.

**— Як размяркоўваюцца кіруючая і накіроўваючая ролі сярод краін-арганізатараў?**

— Расія з'яўляецца кіруючай краінай-удзельнікам і ідзе ў Антарктыду пад эгідай 45-й Расійскай арктычнай экспедыцыі. Яна ажыццяўляе забеспячэнне авіяцыяй і праводзіць адбор парашутыстаў. Беларусь і ЗША выступаюць у ролі віцэ-кіраўнікоў. У нас сканструяваны і вырабляюцца пнеўматыкі, а ЗША ажыццяўляюць набор жадаючых і адпаведна пералічэнне грашовых сродкаў на фінансаванне экспедыцыі.

**— Усе праслаўленыя падарожнікі і падарожжы сучаснасці атрымалі сусветную вядомасць дзякуючы іх асвятленню ў сродках масавай інфармацыі. Ці будзе ажыццяўляцца інфармацыйная падтрымка экспедыцыі на Паўднёвы полюс!**

— Будзе, і на вельмі сур'ёзным узроўні. Напрыклад, Бі-бі-сі, карпаратыўна супрацоўнічаючы з 26 тэлекампаніямі з розных краін, з 10 гадзін 30 мінут па Грынвічу 31 снежня 1999 года да 12 гадзін дня 1 студзеня 2000 года будзе рабіць перадачу пра навагодняе свята ва ўсім свеце. У тым ліку будзе паказана сустрэча Новага года нашай экспедыцыяй на Паўднёвым полюсе. Акрамя таго, ад кожнай краіны — удзельніцы антарктычнага падарожжа на "Пэтрыот-Хілз" ці ў Пункта-Арэнасе будуць журналісты, якія прыляцяць туды спецыяльна для асвятлення экспедыцыі. Разам з караванам пнеўматыкаў на полюс пойдзе апаратар перадачы Юрыя Сянкевіча "Клуб падарожнікаў". Што ж тычыцца асвятлення пакарэння полюса ў беларускіх сродках масавай інфармацыі, то вырашэнне гэтага пытання таксама патрабуе дзяржаўнай падтрымкі. Справа ў тым, што беларускі ўдзел у экспедыцыі будзе, бадай, самым масавым. На Паўднёвы полюс адпраўляюцца 11 беларусаў і, вядома, ненармальна, калі ў нашу краіну не трапіць ніякай інфармацыі аб праходжанні землякоў па маршруту. Усё ўпіраецца ў спецыяльныя сродкі сувязі, дзякуючы якім можна было б перасылаць тэкставую, відэа- і аўдыяінфармацыю ў Беларусь. Аднак гэтае пытанне, як і адкамандзіраванне беларускіх журналістаў у Антарктыду, пакуль адкрытае, але мы спадзяемся на яго хуткае вырашэнне.

Нягледзячы на некаторыя цяперашнія арганізацыйныя і тэхнічныя непаладкі — без іх не абысціся ні ў адным сур'ёзным праекце, — цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што экспедыцыя адбудзецца. І мы спадзяемся, што 1 студзеня 2000 года Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь разам з флагамі іншых дзяржаў узнімецца пасярод лядовага мацерыка на Паўднёвым полюсе Зямлі.

ВЫСТАВЫ

# «КАРАБЕЛЬ МАРЫ» Уладзіміра ТОЎСЦІКА

Калі ў 1992 годзе Уладзімір Тоўсцік пісаў свой "Малы каўчэг", ён, здаецца, спадзяваўся, што беларусы ў яго трапілі, а не засталіся ў нябыцці. Ён верыць: мы як нацыя і кожны як асоба зможам жыць, не існаваць. Ён дорыць прыгожыя карціны, дзе яркія вобразы, знакі, якія нагадваюць думкі, падштурхоўваюць фантазію. Сапраўды, Уладзімір Тоўсцік — адзін з лепшых беларускіх жывапісцаў.



*"Малы каўчэг".*

Мастак шмат бачыў і адчуваў у сваім жыцці (выстава ў Палацы мастацтва прымеркавана да ягонага 50-годдзя). Ён ведае кошт успамінам. Нездарма ж вы[illegible]вае з такой любоўю "Прыкмет[illegible]адыходзячага часу", дзе ёсць д[illegible]м, забытая лялька, якія нагадваюць кожнаму пра шчымлівыя моманты ці то свайго, ці то маленства тваіх дзяцей. Уладзімір Тоўсцік упэўнівае нас у значнасці жыцця кожнага, каштоўнасці асабістых успамінаў, думак. Ён стварае "Карабель мары", гледзячы на які, ловіш сябе на думцы, што даўно ўжо развучыўся марыць. І раптам разумееш: без гэтага ж жыць нельга, бо мроі — частка жыцця, нават прыкмета здаровай душы.

Што ёсць жыццё, па Уладзіміру Тоўсціку? Мне здаецца, гэта трошкі гульні, трошкі тэатра, які ў ім пануе. Большасць герояў мастака здаюцца акцёрамі. Хто іграе ў жыццё, хто ў карты ("Гульня").

Свет складаецца з розных праяў. Недзе ёсць горад Кёльн, і там іграе трубач, ёсць "Старая Італія" і Грэцыя, дзе, можа, і не будзеш ніколі, але любіш гэтыя мясціны, дзякуючы карцінам майстра ў тым ліку.

Уладзімір Тоўсцік уважліва ставіцца да колеру. Думаю, у гэтым традыцыяналізм мастака. Ён так натуральна спалучае фарбы, што кожны з яго інтэнсіўных шматгранных твораў пачынае жыць як адно цэлае. Артыстызм і імправізацыі мастака ствараюць трапяткі, крохкі, як успамін, свет, дзе кожны можа знайсці для сябе ўтульны куток.

**Алена СПАСЮК.**



*"Мастак і мадэль".*

ЮБІЛЕІ

# ЦІ Ж МОЖАМ МЫ ЗАБЫЦЬ ПРА ВАС?!

## ДА 100-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Міхаіла ЖЫРКЕВІЧА

Сотні людзей, якія сёння называюць сябе яго вучнямі, працавалі і працуюць у розных сферах дзейнасці, а найболей — у філалагічнай. Сярод выхаванцаў Міхаіла Іванавіча — масцітыя журналісты, дзеячы культуры і мастацтва, заслужаныя і проста добрыя выкладчыкі роднай мовы і літаратуры. І, вядома ж, майстры мастацкага слова. Як, скажам, народныя пісьменнікі Беларусі Іван Мележ, Іван Навуменка, Іван Чыгрынаў, народныя паэты Ніл Гілевіч і Рыгор Барадулін, лаўрэаты Дзяржаўных прэмій Алег Лойка, Барыс Сачанка, Міхась Стральцоў, Анатоль Вярцінскі, Іван Цішчанка, Арсень Ліс, Вячаслаў Адамчык, Іван Пташнікаў, Віктар Карамазаў, Генадзь Бураўкін, Васіль Зуёнак, Янка Сіпакоў, Генрых Далідовіч... Магутная плеяда! Ды ці ўсіх пералічыць?.. А навукоўцы — акадэмік Алесь Падлужны, члены-карэспандэнты Аркадзь Жураўскі, Міхась Мушынскі, Алесь Булыка!.. Знакамітыя вучоны Адам Мальдзіс...

Вучнямі знанага педагога сталі і выкладчыкі філфака Белдзяржуніверсітэта — прафесар Уладзімір Лазоўскі, дацэнты Ніна Гілевіч, Мікалай Міхей, Зінаіда Зяневіч. Гэта людзі старэйшага пакалення (дарэчы, усе яны прадстаўнікі беларускага аддзялення аднаго года выпуску — 1956-га), тыя, што зараз працуюць на кафедры сучаснай беларускай мовы, якую ў 1956—1966 гадах узначальваў М. Жыркевіч. Зоркай першай велічыні сярод усіх стаў прафесар Леў Шакун. Ён кіраваў кафедрай з 1966 па 1992 год, з 1992 па 1996 — прафесар Л. Бурак. Цяпер гэту пасаду займае таксама выхаванка Міхаіла Іванавіча Лідзія Сямешка.

З даваенных гадоў і да канца 70-х па падручніках па беларускай мове для V—VII класаў дацэнта М. Жыркевіча вучыліся цэлыя пакаленні школьнікаў. Пасля Вялікай Айчыннай многія з іх паступалі на філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, дзе педагог чытаў курс сучаснай беларускай мовы.



*М. ЖЫРКЕВІЧ (першы злева) з калегамі-філолагамі. 1968 год.*

Пра Міхаіла Жыркевіча, чулага выхавальніка, добрага, памяркоўнага чалавека, старэйшага сябра і дарадцу, ва ўсіх былых студэнтаў-філолагаў захаваліся найлепшыя ўспаміны (не стала яго 13 чэрвеня 1984 года, пражыў амаль 85).

1969 год. Пазванілі з філфака БДУ: Жыркевічу — 70. Трэба павіншаваць. Большасць з нас, музейцаў-коласаўцаў, — яго выхаванцы. Паслаць вырашылі мяне. Падпісалі альбом "Якуб Колас. Жыццё і творчасць", распісаліся на чале з дырэктарам Данілам Канстанцінавічам і аддалі мне.

Урачыстасць адбывалася назаўтра. Думаю, скажу колькі слоў, прывітаю ад калектыву, нагадаю, што юбіляр калісьці вучыўся ў Якуба Коласа ва універсітэце, калі той выкладаў там беларускую мову... А што, каб "закругліць" вітанне вершаваў?.. Меркаваў — 3—4 радкі прыдумаць. Выйшла цэлая "ода". Прачытаў, памятаю, перад паўнюткай актавай залай факультэта. Публіка прыняла ўхвальна. Сам Міхаіл Іванавіч расчуліўся.

Прапаную ўвазе чытачоў той, 30-гадовай даўнасці, верш-віншаванне.

### НАСТАЎНІКУ

Па Вашых кнігах яшчэ у школе
Мы пазнавалі сэнс навук,
Крыху пазней па лёсу волі
Мы Вас сустрэлі наяву.

І нейк адразу ўсім здалося,
Што голас Ваш мы чулі век —
У вусны з вуснаў панеслося:
— Які ён людскі чалавек!..

Заўсёды Вы былі ў гуморы
І падымалі ў нас настрой —
За Вамі мы па калідоры
Снавалі цэлай чарадой.

Прыходзіў лекцыі пачатак —
Мы працавалі разам зноў:
Шукалі суфікс і канчатак
І пранікалі ў сутнасць слоў.

Калі ж умення нехапала
Ці думаў хлопец пра "казла",
Міхал Іванавіч, бывала,
Уміг знаходзіў корань зла.

Заесць у галаве — і баста!
І хоць бы трошачкі дзе цюк —
У вінавальным склоне часта
Маячыў не адзін дзяцюк.

— Сядай, мудрэц! Скажы ты, братка, —
Звяртаўся да другога ён,
Пакуль не дойдзе да парадку,
Пакуль не ўбачыць творны склон.

Выказнік, дзейнік, дапаўненне —
На ўсё давалі мы адказ.
Набыўшы моўнае уменне,
Ці ж можам мы забыць пра Вас?!

Мы самі дзейнікамі сталі,
І дапаўненні ёсць у нас.
Стаім на розным п'едэстале,
А ў сэрцы ўсіх адзіны сказ:

— Хай у заключным нашым слове
Пачуецца давальны склон —
Усе выказнікі любові
Шлюць Вам сыноўскі
свой паклон!

**Іван КУРБЕКА.**



З БУДУЧАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ РЭПРЭСІРАВАНЫХ БЕЛАРУСКІХ ЛІТАРАТАРАЎ

# ВЯРТАННЕ З НЕБЫЦЦЯ

## Сяргей Русаковіч (1912—1937?)

Сяргей Русаковіч разам з Міколам Гваздовым, Апанасам Сідарэнкам і іншымі пачынаючымі літаратарамі ўваходзіў у той шэраг маладых беларускіх талентаў, якія па прычыне "ранняга" арышту не паспелі акунуцца ў актыўнае літаратурнае жыццё тагого часу.

Сяргей нарадзіўся ў 1912 годзе ў вёсцы Асавец Любанскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і селяніна Фёдара Русаковіча. Пакуль мы не маем усіх дакладных звестак пра яго. Толькі ў 1990-я гады высветлілася з успамінаў Міхася Кавыля, што быў Сяргей Русаковіч з залатой плеяды вучняў "царскага ліцэя" — Мінскага Белпедтэхнікума, у які паступіў разам з Я. Лешчанкам (М. Кавылём) і У. Гуцькам (У. Дудзіцкім) у 1930 годзе і дзе ўжо год-два вучыліся С. Астрэйка, З. Астапенка, К. Вашына (Л. Калюга), Ф. Гінтаўт, В. Маракоў, С. Гайка... На пасяджэннях літаратурнага гуртка, які ў той час яшчэ існаваў у тэхнікуме, але ўжо не выпускаў свой славуты часопіс "Крыніца" (нягледзячы на тое, што ў 1929 годзе "Савецкая Беларусь" прызнала часопіс лепшым у рэспубліцы), у 1930-м ён быў забаронены), С. Русаковіч сустракаўся з М. Лужаніным, Э. Агняцвет, спрачаўся з А. Кучарам і, як потым успамінаў М. Кавыль, "хваліў Л. Калюгу і С. Астрэйку ды крытыкаваў У. Сядуру: "Ганарыца наш Бялінскі, што напісаў сказ даўжынёю ад Камароўкі да Старажоўкі..."

Увосень 1931 года С. Русаковіча разам з некаторымі іншымі "забастоўшчыкамі" за ўцёкі "з прарыву" па збіранню мёрзлай бульбы ў калгасе Сцяпянка выключылі з тэхнікума. Аднак "выключэнцы" доўга не сумавалі, бо ў той жа год удалося ўладкавацца ў БДУ... Усё паступова супакоілася, і "забастоўшчыкі" працягвалі вучыцца, часам нават друкаваліся, але "нкусаўцы", як аказалася, "не драмалі". У ноч з 22 на 23 лютага 1933 года ў дзверы дома № 63 б па вуліцы Крапоткіна, дзе ў той час пражывалі перакладчык Ваеннага выдавецтва С. Русаковіч (Сяргей пакінуў БДУ), пастукалі "хлопцы ў скуранках".

Далей пачаў складвацца вядомы ланцужок: арышт — вобыск — пратакол — "варанок" — "амерыканка" — камера (Сяргею дасталася пад нумарам чатыры). У тую ж ноч арыштавалі і сяброў-аднакурснікаў — З. Астапенку, С. Астрэйку, С. Гайку, Ф. Гінтаўта, У. Дудзіцкага, М. Кавыля, Л. Калюгу і групу маладых літаратараў: З. Віталіна, К. Грыневіча, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна, А. Мардвілку, М. Нікановіча і іншых.

10 жніўня 1933 года "тройка" асудзіць С. Русаковіча да трох гадоў пазбаўлення волі з адбываннем тэрміну пакарання ў працоўна-папраўчых лагерах. Неўзабаве асуджаных, амаль усіх разам, этапіруюць у Новасібірск, адкуль раскідаюць па розных канцлагерах. Далейшы лёс С. Русаковіча дакладна невядомы, але, па некаторых звестках, увосень 1937 года яго паўторна арыштуюць і праз некалькі тыдняў асудзяць да расстрэлу.

Амаль праз дваццаць гадоў пасля смерці, 24 жніўня 1956 года, Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР рэабілітавала Сяргея Русаковіча. Але ці можна лічыць РЭАБІЛІТАЦЫЯЙ спраўку-пісульку, сэнс якой змяшчаецца ў двух словах — "расстраляны памылкова..."?

Апавяданне "Крумкач" было надрукавана ў часопісе "Узвышша" вясной 1931 года. Паказальны склад аўтараў таго нумару элітарнага выдання: К. Чорны, М. Лужанін, З. Бядуля, З. Астапенка, Х. Дунец... і вучань першага курса педтэхнікума С. Русаковіч...

**Леанід МАРАКОЎ.**

# КРУМКАЧ

## *АПАВЯДАННЕ*

**Сяргей РУСАКОВІЧ**

Сымон Цывік сёння ўстаў як ніколі рана, 'шчэ досьвіткам, тады, калі золак прадзіраў свае каравыя вочы. Яго разбудзіў гарласты назола-певень, якога ён трымае вось ужо сёмы год у гаспадарцы ня так для прыбытку, як ён кажа, а для парадку. Хоць і часта сьмяюцца дзеці старому Сымону, — калі ён ужо адсьвяткуе сямігадовы юбілей слаўнага палкаводца? А ён хоць-бы што, не сярдуючы адкажа: бо трэба-ж, каб хто-небудзь пад вёў, ну скажам, даглядаў, клапаціўся аб нястачы і іншае, адным словам, кіраваў. Вось і тут так выходзіць. А без яго — разважае Сымон далей — як полк без камандзіра. І перад яго вачамі намаляваўся стройная постаць пеўня: з паднятымі ўгору дугамі-пер'ямі і чырвоным зубчатым грэбнем.

Ды ці ў гэтым уся выгада галагуцкага палкаводца? Падумайце. Раз... Два... Тры... Чатыры... Ну, годзі, як я бачу, вы ўжо затаміліся, цівося, як думаеце, а адказу няма. Лепей патрубуем Сымона, ды ён і сам ужо назолаю крычыць:

— У дамоўцы ўсё - ж трэба. Навошта маім курам бегаць па чужых дварох, шукаць пеўня ды губляць па засутаччу яйкі, гэта-ж будзе трата ў гаспадарцы, а так у мяне ўсё сваё ад голкі да бугайчыка. А хто сёння мяне разбудзіць?

У гэты час певень закрычаў на ўсё горла, быццам кажучы гаспадару:

Я-ш-ч-э б-у-д-у-у, х-в-а-л-і б-о-л-е-й!

— Ціха, пячкур, бо яшчэ Лукер'я прыбяжыць з таўкачом, — папярэдзіў нарокам Сымон.

Гэта ён успомніў мінулае лета, як яго палкаводзец з сваім атрадам пакляваў у суседкі Лукер'і ўсе гуркі. Тады яна цэлы дзень гарцавала з таўкачом за пеўнем, з канца ў канец вёскі, бы ўтрапёная, і, галосячы, аж ламала рукі:

— Каб цябе пранцы елі самога і тваю атарыцу, як яны мае гурочкі паперлі. Было некалькі каліў, дык і тыя рашылі да шэлега. Няма чаго і дзеткам даць. Гэта год у год, выпусьціць гэтую псярню, што гатовы вочы павыдзіраць: любуецца, а ты выстарчай ім. Не, годзі, хіба здохну на лета, калі я яму голаў не адкручу, — клялася Лукер'я.

А Сымон грымеў басам:

— Вычарнее юкло, то прысунеш гэты нос кірпаты (а ў яе і дапраўды быў такі). Гэта на сваю ўсё голаў, галубка. Брашы, брашы.

На гэтым і канчалася. Сымон джгаў дамоў, а Лукер'я ўзмацняла агонь праклёну.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тымчасам Сымон ужо апрануўся. Уссунуў пракавецкія, 'шчэ пакойніка дзеда, ватовыя штаны, якія, як крылы старога абшарпанага ветрака, лепяталі ад ветру, а з іх, быццам-бы толькі што з-пад сьнегу вясною на выжарах, рыжэў зьбіты ў лямец вата-мох. Усьцягнуў каравыя ад гразі юхтавыя боты і, нешта нэндзна гомзаючы сабе пад нос, бускнуў:

— Скажаш Малахвею, хай вечарком падскочыць на кані ці так.

— Ён-жа будзе адзін баяцца, — ледзь працадзіла праз зубы, як малако праз густую цадзілку-анучу, старая Сымоніха.

Сымон змаўчаў, нічога не адказаў, а толькі моцна чмакнуў дзьвярыма, аж зазьвінелі ў вокнах шыбы, і бадай ад гэтага груку прахваціліся дзеці, якія 'шчэ спалі ў цёплых коўдрах у запечку.

Сымоніха кулём рынулася на ўздагон за Сымонам, трымаючы ў руцэ зрэбную белую торбу.

— Сымон, а Сымон, вярніся, вазьмі кайстру, — чуваць было лемантавала жонка Сымона Аўдуля.

А Сымон, увапёршыся ў зямлю вачыма, адмерваў крок за крокам. Ён ці ня чуў, ці зусім не жадаў чуць гэтага ляманту, а маўчыма ўцякаў ад яго.

У яго галаве складаліся новыя пляны. Новыя думкі валодалі ім, будзілі глыбокія пачуцці, натхнялі халодны розум, а часам роем кружыліся над ім, як авадні ў гарачы дзень ля жывёлы, луналі ў бязьмежжа, зьвярталіся назад, ахварбаваныя ў вясёлкавы колер і, цмогнуўшыся ніцма, каля ног рассыпаліся, як мякіна на ветры. Не ўтаймаваць усяго.

Бывае так, што чалавек адкруціць сваё жыцьцёвае кола назад, акунецца ў мінулае, і яму здасца, што ён маленькае дзіцё, якому толькі ўсяго пяць гадкоў, якое сядзіць на жоўтым пясочку і перасыпае яго, а не — з цёсачак на печы, пяючы "катка", майструе хатку. Тады маці задаволена кажа: "Забаўляйся, сынок, як вырасьцеш, забяруць у салдаты, тады забудзеш пра сваю мамку, што яна і была ў цябе". І яно ласкавенька, як сонейка, солодка, як цукар, усьміхнуўшыся, адкажа:

— Мамка, я вас моцна люблю!

* * *

— Вось дык натура! Вось дык чалавек! А яшчэ славіцца, як разумны, за парадамі звярачаюцца. Гэта-ж каб хто ўведаў, дык на ўсё сяло засьмяялі-б, праходу-б ня далі, — абірала, стоячы ля вакна, жонка Сымона.

Ёй зрабілася горна на Сымона, і яна легла на ложку, ухуталася, закрыла голаў.

А дзеці сваёю чаргою ледзь не браліся за чубы, вялі між сабою "полеміку".

— Ага, я ведаю, куды наш татка так рана пашоў, — прасакатаў маленькі хлопчык, якога дражнілі Зёма.

— І я ведаю, — падхапіла маленькая Зіна.

— Ну куды?

— Да дзядзькі, што на хутары жыве.

— Ха-ха-ха. Ня ведаеш, — заліўся сьмехам Зёма, ад якога здрыганулася Аўдуля.

Як раптам быццам нешта цюкнула ў сэрца, і яна, як шалёная, кінулася на дзяцей.

— Што ты ценькаеш, пашкуда аблавухая! — і грымак ёмка прыліп у худзенькія плечы Зіны, а Зёма даў драла. Зіна крыўдна заплакала, яе сьлёзы-расінкі сыпаліся з вачэй буйныя, як боб, ад гэтага мацеры зрабілася шкада, і яна паспрабавала суцішыць.

— Сьціхні-ж мне, бо як вазьму паўрозы, то ня так дам. Яшчэ таму рыштанцу не ўдарую. Распусьціліся, на сабакі ня варт, — пакорлівым тонам, як дзяк на клірасе, цягнула Аўдуля. — Глядзі, каб ты мне больш і ня пікнула, а не, — і падскочыла. Зёма знадворку шкрабаў кіпцямі, нібы ў коршака, па шыбе, яна скрыгітала, і ён, выскаліўшы жоўтыя зубы, рагатаў з Зіны.

— Я вось табе пакажу, — і Сымоніха з волакамі ўлягла за Зёмай.

А ён, весела падражніваючы, пайграў да Янкі, каб пахваліцца навінамі, што адлупцавала маці Зіну, і заўтра ўдваіх пакпяць з сястры.

— А разун вас не парэжа! Нічога зрабіць нельга за вамі. Гэта думаць, яно ўжо плявузгае, куды бацька пашоў! А маўзуньне галаватае, шкуру паспускаю, — бэсьцілася Аўдуля.

— Завошта гэта ты на іх?

Аўдуля нэрвова здрыганулася і ўставіла погляд у бок дзьвярэй. У яе ваччу плаваюць белапаясавыя, блішчаста-срэбныя кругі, якія час ад часу зьнікаюць, расплываюцца, а за імі ўплыў ганяецца Аўдуля. У яе пашыраюцца зрэнкі, вочы набухаюць і выпупляюцца. Яна зьбірае апошнюю сілу і з напружаньнем працінае, бы сьпічаком:

— Табе чаго, лантудра, няпрошаны госьць? Усюды паспееш, дасціпная — нішто без цябе не абыйдзецца. Каб і вочы ня бачылі!

— Я да Сымона, прашу не турбавацца.

Аўдуля кіпіць ад злосці, хватае ў камешніку таўкач і мерыцца на Лукер'ю.

— Дык ты яшчэ будзеш аскірзацца, вось табе! І яна кінула таўкачом у яе.

Лукер'я спрытна адскочыла і энергічна штурханула Аўдулю ў пляча. Тая грузна рэзнулася ніцма аб падлогу, а твар зрабіўся пляміста-сіні, набракла-азызлы.

У запечку з плачу захліпалася Зіна.

На дварэ, каля студні, скрыпеў вочап, а на ім вісела вядро. Лукер'я схамянулася: "яшчэ чаго добрага, скажуць, што я"... Раптоўнасьць перамагла сьвядомасьць, яна мігам выскачыла з хаты і, што ёсьць моцы, закрычала:

— Ратуйце, Аўдуля хворая!

І сама, падабраўшы хвалібоны запэцканага андарака, гарцавала ўсьцяж вуліцы.

На ёй нікагусенькі, пустэльная ціша. З каміноў сьвідруе сівы дым, які разносіцца ветрам, як воблакі з неба, і востра пахне ў паветры.

— Цёця, цёця, — цягнула ўжо за андарак Зіна Лукер'ю. Мамка ўстала і казала, каб вы ня крычалі, а да іх прыйшлі.

— А няхай тваю мамку махне, — адмовіла Лукер'я і пацопала да студні.

Аўдуля ўжо сядзела на лаве, каля вакна, і енчыла:

— Нашчэнт змардавала, бэсьцюга, і як май умаеваў, змылася. Гэта-ж трэба, зьнянацку так чалавека на паўмор перапалохаць! Вось дажыліся да пустога канца, што кожны чарвяк цябе точыць.

І яшчэ галасьней крычала, калі Лукер'я чэрпала ваду.

— Пачакай-жа, гіцлю, каб і нага твая ня была ў маім двары! Вон, пашкуда!

Лукер'я несла поўнае, як вока, вядро вады. На прымурку сядзела наплаканая Зіна. Аўдуля вышла ў сенцы і неўзабаве турыла перад сабою маленькую дзяўчынку, гадкоў з пятнаццаць, якую клікалі Настай. Гэта была наймічка.

— Дагэтуль руціць, лежань ты. Ня чуеш, што ў дзьверы рогаюць? Добрыя людзі ўжо на поле пайшлі і дамоўкі дагледзелі.

— Ім і трэба ісьці, — як з падзем'я азвалася Наста.

— А табе не, шалудзівая погань? Каму гэта ўсё запасім? Мо-ж прэш больш за ўсіх, — шыкала Аўдуля.

Наста моўчкі пачала шураваць у печы. Аўдуля, як хмара, пакпыпала да ложка. Праз хвіліну ўбег з крыкам Зёма.

— Малахвей едзе.

Зашамрэлі скаварады, і пах дыму разьліўся па хаце.

Аўдуля ўстала і, як упоеная, пахіснулася ў бок, ледзь ня чмокнулася.

Наста з хітрасьцю кпліва ўсьміхнулася.

— Прыдзецца рэчаньц адлежаць.

* * *

За сталом сядзіць Малахвей. На яго асмуглым твары зьбіраюцца зморшчкі. Падбародак конвульсыўна ўздрыгвае. Твар засмучоны, быццам па кім спраўляе жалобу. На вочы насоўваецца цьмяная заслонка, насупіўся. І, што хвіліна, траціць роўнавагу, галава цяжэе, бы напіваемая волавам, і ён паступова схіляецца на стол. Зьнікае ўсялякая рухавасьць, а думка карузаю сьвідруе голаў: "Што скажа бацька?" Зьнячэўку вырываецца:

— Няхай не пасылае, гэта навука.

Аўдуля, як апараная, енчыць:

— Да кожнае справы трэба загадзя прынаравіцца, ёлапень дурны! Хіба сыляны быў? Бельмы-ж цэлыя.

Малахвей анямеў, сядзіць, як укопаны.

— Загадай дурню маліцца, дык ён лоб паб'е, — ня сунімалася Аўдуля.

— А хто яго ведаў, што так здарыцца, я-ж не прарок. Ды мо яшчэ нічога і ня будзе, — апраўдваўся Малахвей.

— Паслухай, што на сяле кажуць, дурніца. Адна Лукер'я ўсім на хвасты панавязвала. Праходу няма, як крот капаецца і ўсё на Сымона.

Пры апошніх словах яе голас дрыжэў, бы напятая струна, і язык міжвольна лепятаў, як асінавы ліст пад восень.

На парозе зьявілася Наста.

— Людзі папрыходзілі, куды весьці?

І зачыніла дзьверы.

Аўдуля на хаду ўскінула на плечы хустку-апранаху і вышла.

Малахвей застаўся адзін. Нешта сабе пад нос памармытаў і задрамаў. Ім авалодаў сон. На дварэ Аўдуля разьмяркоўвала наймітаў.

— Вось гэтая партыя, — і яна паказала рукою, дзе стаялі тры жанкі, — бульбу капаць за чорную грэблю, а астатнія пад павець — лён трапаць. З імі пойдзеш і ты, Наста.

— І я, — папрасілася Лукер'я.

Аўдуля скоса паглядзела і выцісьнула:

— Бяры трапло і ступай, а не — да хаты.

Ужо пад паветкай цахкалі церніцы, і трапло прагна жавала кастрыцу.

...Конік бяжыць трушком, але шпарка. Ужо мінуў Няжылава. Засталося лічаных тры кілёмэтры. Колы сакочуць лёстачкамі, і рогатам аддаецца водгук: ту-ды, туды. Зьнікае грым ночы, бо месяц-аблуда вынырнуў з-пад крыгі хмар. Каймой лесу вышыта дарога, ломаная, як чаланка. Зарэзалася кола ў калдобіну, конік нацягнуў жылы, але ні з месца, толькі воз рыпнуў, хурман пад адхон покатам. У Лесе трэскалася сава. Перад канём узьвіліся тры сьцені. У небе ядраныя зоры.

— Ой!

— Ку-га! — разьлягаўся лес.

Конь фыркнуў і заіржаў. Водгалас слаўся.

— Н-о-о-о! — гукнуў на ўсю моц Малахвей і здрыгануўся.

— Чаго цябе бярэ? Уставай ды едзь, вечарэе, — праказала Аўдуля.

Наздраты Малахвей прахапіўся і, пазяхаючы, апрануўся. У яго быў разбухлы твар, а вочы чырвоныя, як у рака.

Калі Малахвей выязджаў з

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# КРУМКАЧ

## АПАВЯДАННЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

двара, Аўдуля навучала:

— Толькі ня будзь варонаю. На дарозе ня спыняйся. Калі хто спытае, скажы, што па дровы ў лес.

Падбегла Лукер'я.

— Куды кастрыцу прыбраць?

— На вышкі ў адрыну.

Конь стрыжэ вушамі і ня ўрымсьціцца.

Аўдуля пасьпела кінуць:

— Глядзі, сынку. Шчасьлівай дарогі — едзь.

І загрукацелі па шашы калёсы... Конь, бы куля, імчыцца пярэкідам. Яго грыва, ручайка кужалю, віецца ў паветры, а вецер цалуе яе, лашчыць, як дзіцё. А конь, што далей, прысьпяшае бег і пакідае за сабою доўгую стужку пылу. За гэтым сочыць Аўдуля і з вока ня спускае. У яе на вуснах топіцца салодкая ўсьмешка. "Нездарма ў яго віхор вышэй воч". І пайшла ў павець.

* * *

Кволае сутоньне ночы слалася па зямлі. Апошнія ніткі-прамяньні даканалі на шырокім палатне асмыгленага неба. Зямля тхне ўзаранымі скібамі ральлі. У лесе падгалістыя сосны аддаюць смалою, і днём здаровы водыр разносіцца ветрам. Пад вечар сінявокім вянком каля лесу чэзьне смуга. Кашлатыя хмары сунуцца на поўдзень. Гамонкае поле сьціхае, яно слухае начную музыку, і рэдка калі хто парушае веліч гэтае цішы. Толькі засаб некалькі дзён яно ня мае супакою. Вечар нараджае сквіл і сьмех, звонкі, срабрысты. Гэтак і сёньня.

Паперадзе ўсіх ідзе Наста. Яна нібы адлучылася і ідзе асобна. Астатнія ідуць чародкай і заўзята радзяцца, спрачаюцца. Яны ўзышлі на грэблю і зварочваюць нацянькі рэдкім хмызняком, які за лета абабілі пастухі кароўмі.

Кірэіха гукнула ў бок Насты.

— Чаго пацыбала адна! Ласку гэтым ня зробіш, а прыпрэ каровы даіць. Хай жорны свае пранясе, папробуе, што за смак. На гатовае-ж сквапна.

І ўсе голасна падхапілі Кірэіху.

— Пачакай, вось дзівачка, ня мела клопату. Мы думалі, яна разам з намі ідзе, прыаставалася па справе, а яна пасігала. Дзень брала, брала, а на ноч папраўляешся. Хіба ачумела, дзеўка!

Наста спынілася, пачакала, пакуль падышлі да яе, і прыдушаным голасам, аглядаючыся, каб ня было чужога, ледзь праказала:

— Жаначкі вы мае, яна-ж загрызе мяне. Атхлану няма, ад відна ды да цямна ўсё на нагах і таўчэшся, як Марка па пекле.

— Хіба ня бачым. Ты-ж яшчэ дык другі толькі год, а мы-ж зьвякавалі разам, то ведаем, што за штука. Добрая жмінда: сваім дзецям і то шкадуе, абадраныя ходзяць, а палатна на воз не забраў-бы.

— Каб на пяць хіба — тры куфры, як вока, — гукнула Наста.

— Ну вось бачыш! А і ты-ж сарочку носіш, што верацяном раскалаціў бы, а восень, такі холад, — падмацавала Агапа.

Наста, відаць, крыху засаромелася, пачырванела, але ішла моўчкі — гэта ёй была не навінка, не ўпяршыню.

— Ды што казаць, — працягвала Прося, — хіба-ж ня прэе праз яе ласку пакойніца Гінда? Жыўцом ў магілу загнала, а была здаравіня такая, потым прыстала. Папалётала так, як ты, голая ды босая... дык і гатова, прастудзілася; лячыць ня было каму, і памерла. Вось ужо пяты гадок ад мясаеду пашоў. Вечная ёй памяць! І яна злажыўшы ў кучу тры пальцы, перахрысьцілася.

— Гэта скнара, сьлепень добры, усе гізунты выцягне, толькі паддайся, — заўважыла Кірэіха.

Усе зычна, пакацiста зарагаталі.

— Сёньня сама ня вісела, дык дзяцей выслала, каб праверыць, ці шмат выграблі. Каб цябе прыгрэблі сырым пясочкам да сьвятое нядзелькі, а ці-ж ты дала нам на полудзень, як людзям, шыкуха пранцаватая? Прыслала дзецьмі, як мышы ўдавіцца, цьвілога хлеба і тры разлезлыя гурочкі, як чэмер, — дапякала Агапа.

— Шчэ з леташняга году, — дапоўніла Наста. — Сала кублы не даздзержваюць, і нядаўна, як вала добрага, кабана ўклала, ня кажучы ўжо пра тыя, што ў засадзе. Штодня купцы прыязджаюць, а не, дык сам адпраўляе. Вось і ўчора сын адтарабаніў.

На яе падазрона ўсе зірнулі, яна гэта заўважыла, але нічога не адказала.

— Бачыце, сястрычкі, што на сьвеце робіцца, а на сходзе ніхто ня пікне. Сядзяць, нібы вады набраўшы, — казала на ўсіх Прося.

— Сымон горлы ўсім пазатыкаў, — вытлумачыла Кірэіха.

— Ці-ж ня праўда? — падхапіла Агапа. — Самі-ж добра ведаеце, як летась Лукер'ю працьвінтарыў перад усімі на сходзе, што толькі намякнула. Год на працу ня прымаў.

— Я-б не жадала яго й заработкаў, каб толькі адрабіць. Ужо два тыдні, як хаджу на картоплі, а яшчэ, казала, нядзельку, — скардзілася Прося.

— Што вы бралі ў яе? — спытала Наста, якая цівося маўчала.

— А ўжо-ж, здэцца, пры табе. Калі памятуеш, вясною прыходзіла мукі на хлеб пазычаць.

— Памятую, памятую, — як праз сон прыпаміняла Наста. — Гэта ў першы дзень, калі яны перабралі мяне ад Забелых. Як даўно!

— Вось, вось, — згаджалася Прося.

— І гэта за тое?

— Далібог, залаценькая, за тую муку. Ніяк не адкаснуцца. Сваіх яшчэ загончык, як на лаву, стаіць. Жыта позьняе будзе. На дзянёк якнебудзь трэ атчакнуць.

— Ды ўжо-ж.

На нейкі час змоўклі. Сьцежка крута ўвільнула на агароды, у бок загуменьня. На градах чарсьцвела ад ветру позьняя капуста. Гарбузьнік пачарнеў і апусьціў вушы ад раньніх прымаразкаў. Цыбуля ляжала ў кучках, апранутая ў зімовыя кажухі, яе павыцягалі за косы гаспадыні. Сям-там пракідалася рэдзька, якая пайшла ў ствол, аб ёй ніхто не клапаціўся. Часам ляжаў у глыбокай разоры, дагэтуль нікім не заўважаны, пярэсты гарбуз. Тырчэла голае цырбіньне кіяхоў, бы ў рэдкім лесе пні. Бацьвіньне галузнае, яго нават не падабралі каровы, якія звычайна любяць швэндацца гэткаю парою. Пад хлявом стаяў, увапёршыся ў яго карчакаватыя плечы, сьсечаны цыбаты цаўнік. Гэта нарыхтаваў сабе на зіму дзед Навум, хоць і абівае бакі на вышках 'шчэ пазалеташні і ня выводзіцца з кісету сёлетні бэсараб.

Вышлі на вуліцу. У хатах міргацелі газьніцы, лупалі ўсхліпамі. Сьвятло ледзь цадзілася праз шыбы і расьсейвалася ў сутонлівай каламуце вуліцы, ад гэтага здавалася крыху відней. Уперадзе капашыліся густыя цені, і чуваць была жаночая гамонка. Па голасе можна было ўгадаць і, не памыліўшыся, адказаць, што гэта былі з іхняе хэўры, бо асобныя кускі гутаркі казалі за гэта.

— Чуеце, як Лукер'я аратарнічае, усёроўна, як Мікола, — праказала Агапа і, жартуючы, дадала: — Ці не за дэлегатак.

Яны сьцішылі крокі. Прыслухаліся. І як пад каманду, шэптам адказалі:

— Так, яны...

Праз хвіліну ўсе стаялі разам і гутарылі. Кірэіха, не даходзячы да іх, брала на цыгіндар.

— Чаго растрэскаліся на ўсё сяло, аж на тым канцы чуваць? Ці нельга пацiху ўладзіць свае нагіморы?

— А мы пра новую вестку дудукаем, — абаранялася Лукер'я. Вось ці чулі? Дужа цікава.

— Пра што? — грымнулі залпам.

— Прыехала з раёну нейкая ахмістрыня і заўтра вечарам склікае сход усіх жанчын нашага паселішча. Кажуць, хоча ведаць, як жывом з дзядамі, ці ня тузаюць за каўтуны.

— Вось аскома...

— Зьлітавалася, — гіронічна перабіла Кірэіха.

Пакаціста зарагаталі. І паліліся кпіны па адрасу "нейкай ахмістрыні". Яны што раз усё мацнелі і нагадвалі аб нечым набалелым. У старое Агапы сьліна мыльным шумам тала на губах.

— Бач прыехала — сход рабіць, людзей бунтаваць. Ведаем такіх! Цікава ёй, як я сплю з сваім Ігнатам. Што гэта, жаначкі, за навалач, — і разьвяла рукамі. На яе ўсе вытрашчыліся і ўважліва сачылі за кожным яе пабочным рухам. А яна папраўлялася:

— Лыткі-ж добрыя выгадавала, дык чаму ня чмуціць? Шпацыруе сабе, заклаўшы рукі за зад, загнуўшы пэйсы рогам, як у барана. А ты ад цямна да цямна карчуком — не на ўме нішто.

— А мы на сходзе выкажам. Чмыхне ў нос, — перабіла Прося. — Усё дачыста расьпішам, як крэйдаю па сьцяне.

Разважна памаўчалі, бо думка апаланіла нечаканасьцю. Але не надоўга. Лукер'я першая ўхапілася за працяг гутаркі. Яна ёю так захапілася, што не заўважыла, як цалкам каўтала словы або захліпалася, але што казала, было для ўсіх зразумела.

— І каліва не перапусьцім, гуртам будзем лаяцца, да апошняга слова. Падцяром соплі, ліха іх галаве. Хай ведаюць, што мы не з апошніх. А ты, Прося, не адмаўляйся, мы выберам цябе дэлегаткаю, яшчэ і ў раён пашлём, паглядзіш, азнаёмішся, і будзем разам працаваць.

Прося соладка ўсьміхнулася, бадзёрая.

— Дык я-ж старая, 43 гады, што я вам напрацую, лепей Насту, яна маладая, здаровая. Няхай яна там раскажа, як ёй жывецца ў Цьвіка.

— Нічога, выберам цябе і Насту — дзьвюх, — гукнула Кірэіха.

— А яна тут сама? — спытаў хтосьці.

Пераглянуліся. Вочы дапытліва памацалі ўпоцемку.

— Недзе дамоў шмыгнула.

— Ды ўжо-ж. Я сама ёй скажу — прыцягну сілком. Толькі, каб вы былі ўсе, а то Сымонавы сучкі цяўкацьмуць — ня справімся, — турбавалася Лукер'я.

— Апрагуцца....

— Зможам...

— Кагалам...

Загулі галасы. Разварушыліся.

Нават Агапа, якая дагэтуль супраціўлялася, дала згоду прыйсьці на сход і не адна.

— Дзе ні прападала — прыду, 'шчэ і Ладымерыху падбухтору, каб болей.

— Даўно так-бы, без усяго.

І сьціхлі — усё ўладжана. Пачалі разыходзіцца.

А ноч ліняла. Крыльлі ў перхаці лушчыліся: ападалі ў застылай нярухомасьці. Тады блішчэла зямля. Росныя пацеркі пераліваліся і зіхацелі дыямэнтам. Рабілася зябка. У гары, дзесь, блудзіў журавель і прагна курлыкаў. Іней садзіўся паволі, нячутна, каб ня трывожыць ноч. А з вуснаў плыло:

— У-х-х, як здорава шчэміць мароз.

— У-х-х, як холадна дыша зямля.

А ў небе лупалі сінявокія зоры...

* * *

— Паганяй, сынку, хутчэй будзе. Каб гэту чортаву мясьціну пераскочыць, а там крыху ня так — поле. Можа-б яшчэ раз зьвярнуцца пасьпелі, хоць і бярэцца пад дзень.

Хурман ужо з пугаўём завіхаўся ля хваста і пляжыў сырыцоваю пугаю па сытым крыжы каня. А ён цяжка, задыхаючыся, ледзь плішчыў.

— Вось табе і на, не пагоніць. Дзіва, што стрэў чорта як і сам.

— Ну-ж, каб цябе ваўкі зад..., — з прыціскам кідаў праз зубы Малахвей. І аглядаўся па бакох.

На возе ляжала ўпоруч пяць мяшкоў жыта і адзін упоперак, на якім сядзеў сам Сымон. Яго каржакаватая фігура ляніва варушылася, і валавяныя вочы ўпіваліся ў начную цемень. А ён глытаў яе і хціва жмурыў бровы. Воз нахабна рыпеў, западаючы ў калдобіны.

— Ну, ну, яшчэ, рыжы! — падганяў Малахвей.

— Гэ ты, дубіна, жыў будзеш, — ужо сьмела гукаў Сымон, бо пераехаў лес. А ён яго часам баіцца і моцна любіць. Баіцца тады, калі вядзе што-небудзь каштоўнае. Тады яму здаецца, што з-за карчоў за ім нехта сочыць і цікуе, каб выглядзець добры, падручны момант і зьнянацку накінуцца і абрабаваць яго. Але гэта бывае на рэдкасьць. За ўсё жыцьцё ён памятуе толькі адзін такі выпадак. Ды і то гадоў з сем назад, калі вёз да брата на хутар кабана.

Як праз сон, успамінаў.

— Стой! Стой!

— Страляць буду! Стой! — зашчоўкаў затвор. Суняўся. Падышлі дзьве ўзброеныя постаці.

— Што вязеш?

— Куды?

— Далібог, залаценькі, пасагу дачцы.

Ухітроўваўся, але дарэмна.

— Скідай і дамоў.

— Што вы!.. што вы!.. даражэнькія!..

— Ня пікні! Чуеш?

І здаровая рука накінула мяшок на галаву і моцна сьцяла зборкамі.

— Едзь.

Забражджалі пустыя калёсы па карэннай дарозе. І на астачу харкнуў густы стрэл.

А колькі ён іх первазіў! І ліку няма.

Сымон зноў пачаў шморгаць лейцамі.

— Но-о-о, падла, цопай!

І болей нацягнуў шапку на вушы.

— Тата, тата, мех падраўся — жыта сыплецца! Хутчэй. Каня ... Тпр-р-р!

— Тпр-р-р-р!

Пакуль суняліся, дык палову мяха і высыпалася. Буйныя зярняты, як жоўтым пясочкам, выслалі сьцежку.

— Бяды ня было, дык на табе, — гаркітаў Сымон.

— Але адны гоні не даехаць, вот скажы ты!

— Разграбі яго з пяском, хутчэй!

— А можа сабраць?

— Ня трэба, жвавей!

Конь аддыхаў. Над ім з спэцыфічным пахам вісела дзяруга густое пары, як туман над ракой.

Малахвей разгроб ува ўсе бакі, зьмяшаў з пяском і, некалькі раз перагледзеўшы гэта месца, сплюнуў і рынуўся наўздагон за возам, які ўжо ад'ехаў на некалькі крокаў.

— Тата, тата, пачакай!

Сымон азірнуўся, затарнаваў каня.

— Што сталася? Які чорт душыць, што так канаеш?

А Малахвей увесь белы і дрыжыць, ледзь усьцёгся на воз.

— Кажы, што?

Маўчыць і ўсё цісьнецца да меха, а як ачухаўся, боязна (каб зноў не здарылася) апавядаў:

— На гэтым месцы мяне і ўчора спаткалі, ледзь выбраўся.

— Які пудлівы, на ліха табе, што ўсяго баішся.

Гэта ён сказаў на Малахвея, але потым гутарка ўвесь час ішла пра ўчарашняе здарэньне. Сымон пытаў:

— А што рабіў Мікола?

— Каня варочаў назад. Хацеў, каб завёз жыта ў савет, але парадзіліся між сабою і сказалі, каб вы заўтра прышлі ў канцылярыю да іх.

Сымон ня ўтрываў.

— Хваробу, галота, закілзаеш! Трасцу пад'ясі, што дам, бзьдзюха гнілавухая! Яшчэ паглядзім, хто каго!..

Расчыніліся вароты, і конь цьвёрдаю хадою пад'ехаў да склепа. Сымон мешкавата саскочыў з воза, бо ўжо прысадзісты мужчына траляваў з воза мяшкі.

На ўсходзе акраец неба агніста зардзеўся, і грым ночы змываўся ў буйных пацерках расы, ранейшай, срабрыстай.

* * *

Вестка птахам абляцела вёску. Усе на нагах: старыя і малыя. Гутаркі не абабрацца, і кожны пасвойму тлумачыць. Адны спачуваюць, другія насупроць, а большасць вясёлыя, адчуваецца нейкая ўрачыстасьць, перамога над тым, каго раней баяліся.

— Я дык вельмі рада, што хоць збудзем з галавы аднаго крумкача, — кажа старая Навуміха, захутаўшы ў ручнік свае хворыя зубы.

— Вядома, падаўна трэ' было гэта зрабіць, бо ён не чалавек, а зьвер, — дапаўнялі іншыя.

— Зьверу зьвярыная і слава.

Аўдуля ў той дзень нікуды ня вышла з дому, а ўсё ходавала, бо ня было ўжо ў яе Насты. На яе вядзьмарскім твары, у ружовай тлустасьці шчок, хаваецца глыбокая тайна. І яна ад гэтага ня ўрымсьціцца, ходзіць па хаце, нечага шукае і прыліпае да акна. Глядзіць на вуліцу, а па ёй ідуць людзі і спыняюцца каля вялікага будынку. Тады яна ледзь цэдзіць праз зубы:

— Скончана... ведаюць...

А людзі ідуць. Спыняюцца. Задзіраюць галовы на сьцяну, дзе прыбіты вялікі кусок шпалеры, а на ім гонкімі стракатымі літарамі выведзена:

АБ'ЯВА

Даводзіцца да ведама, што сёньня, 5 кастр., а 12 г. дня, у памяшканні хаты-чытальні адбудзецца грамадска-паказальны суд над кулаком в. Навасёлкі Сымонам Цьвіком, які прыцягваецца да судовай адказнасьці за эксплёатацыю і зьдзекі з наймічкі Насты Бугай.

Менск, 1931 г.

**Сяргей РУСАКОВІЧ**

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 625 экз.
Зак. 2245.
Падпісана да друку 22.11.1999 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).